# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 20 (272) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 14 МАЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.

## Пад ляжачы камень вада не пацячэ

Не надзяліла маці - прырода беластоцкую зямельку такімі каштоўнымі залежамі, як вугаль, руда ці серка. Затое каменняў не паскупіла. Праязджаючы дарогамі Беласточчыны паглядзіш на поле і выдаецца, што грамадныя статкі авечак пасвяцца. Прыгледзішся ім бліжэй — дык гэта ж каменні!

Асабліва шмат каменняў на палях Дуброўшчыны.

У аколіцы Звярынца, напрыклад, ёсць такое мноства каменняў, што сяляне агароджваюць імі пасбішчы.

Як вядома, камень, гэта вельмі каштоўны будаўнічы матэрыял. Перш за ўсё ён неабходны ў пабудове дарог. Усім вядома, як выглядаюць дарогі на Беласточчыне. У большасці яны ўсё яшчэ пяшчаныя. А на Дуброўшчыне стан дарог бадай што найгоршы ва ўсім Беластоцкім ваяводстве. Дуброўскія каменні ніколі яшчэ не былі выкарыстоўваны. Замест таго, каб ляжаць на пяшчаных дарогах, яны ўсё ляжаць на пасяўных плошчах, прычыняючы сялянам шмат клопатаў. Каменні ў некаторых мясцовасцях Дуброўскага павета зусім не дазваляюць уводзіць механізацыю да апрацоўкі зямлі.

У гэтых жа раёнах большасць пасяўной плошчы ляжыць пад каменнямі зусім нявыкарыстанай. Прысутнасць вялікай колькасці каменняў значна абніжае таксама ўраджайнасць дуброўскіх палёў. Каменні перашкаджаюць нават у прымітыўнай апрацоўцы зямлі, не гаворачы ўжо аб прыменні сельскагаспадарчых машын.

Ці павятовыя ўлады ведаюць аб існаванні вялікай колькасці каменняў на палях Дуброўшчыны? Несумненна так. Яны згодна сцвярджаюць, што пры такіх умовах нельга гаварыць аб шырэйшай механізацыі ў апрацоўцы палёў, аб значным узросце ўраджаяў. Але пачаць эксплуатацыю каменняў усё нейк не адважваюцца. Яны пакуль не маюць пераканання адносна рэнтабельнасці такога мерапрыемства. Аднак гэтыя сумненні выдаюцца зусім неабгрунтаванымі, улічыўшы факт, што, напрыклад, дарогабудаўнічыя прадпрыемствы Люблінскага ваяводства ў шырокім маштабе набываюць каменні, напрыклад, на Сакольшчыне. Ім жа дазолі шмат каштуе транспарт гэтага каменя з Сакольшчыны ў Люблінскае, а ўсё ж відавочна аплочваецца, бо купляюць. А ў Дуброве, пры ўмовах так грамаднай колькасці каменняў, сумняюцца, што эксплуатацыя іх не будзе зыскоўнай. Мне давялося гаварыць з адным жыхаром Дубровы на гэтую тэму. Ён сказаў канкрэтна:

— Няхай павятовыя ўлады выдадуць мне дазвол на эксплуатацыю, дык я за свой кошт арганізую прадпрыемства апрацоўкі каменняў і кожны год буду ўплачваць павятовай радзе 2 мільёны злотых чыстага даходу. Я ўпэўнены, што і сам на гэтым інтарэсе выйду нядрэнна.

Столькі на гэтую тэму жыхар Дубровы. А што кажуць іншыя?

(Працяг на стар. 4)

### НАСУСТРАЧ МАСТАЦКАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ

Ужо ў добрую традыцыю дзейнасці Беларускага таварыства ўвайшло наладжванне курсаў для настаўнікаў з думкай аб паглыбленні імі ведаў у галіне мастацкай працы. У месяцы жніўні г. г. адбудуцца такія курсы (трохтыднёвыя) — драматычны і музычны. Жадаючыя прыняць удзел у гэтых курсах павінны даслаць у адрас Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства (Беласток, вул. Варшаўская, 11) — не пазней 1 чэрвеня — пісьмовыя заявы. (С. Я.)



«БЕЛАРУСКАЯ КАЛГАСНАЯ ПОЛЬКА». Чытай на стар. 3 Весткі з БССР.



* * *

Мне з кожным годам даражэй
Твае, вясна, дары-гасцінцы,
Здаровы хмель тваіх дражджэй —
У кожнай тоненькай сцяблінцы

Мне ўсё мацней карціць пачуць
Званочак срэбны ў паднябессі,
Прыпільнаваць, калі чуць-чуць
Пралеска выгляне на ўзлессі.

Я прагным сэрцам п'ю настой
Тваіх чаромхаў і баюся,
Што развітаюся з табой,
А ўдосталь так і не нап'юся.

НІЛ ГІЛЕВІЧ

## За першынство ў сельгасвытворчасці

ЮЛЬЯН ПАЛУДНЯК

Кіраўнік бюро Ваяводскага саюза сялянскіх сельгаспадарчых калектываў у Беластоку.

З наступленнем вясны закончыўся гаспадарчы, 1960 г. у калектыўнай сельскай гаспадарцы. За гэты перыяд часу сям'я спулдзельцаў у Беластоцкім ваяводстве павялічылася на 70 новых членаў. Ужо гэты факт найлепш сведчыць аб растучым зацікаўленні сялян калектыўным гаспадараваннем

Мінулы год распачаў паступовы пераход супольнай гаспадаркі ад малавартаснай, спажывецкай да больш рацыянальнай, прамысловай прадукцыі. Найлепш гэта адлюстроўваецца на прыкладзе структуры пасеваў. У параўнанні да 1959 гаспадарчага года плошча пасеваў збожжавых паменшылася на 5,8 працэнта ў карысць прамысловых, кармавых і бабавых культур. Калектыўная гаспадарка і ў гэтай галіне ўжо апярэджвае аднаасобніцкую, бо на адзін гектар земляных угоддзяў прыпадае ў спулдзельнях на 8 працэнт менш збожжавых раслін чым у аднаасобнікаў і наадварот — кааператывы Беласточчыны сеюць больш ад сваіх аднаасобніцкіх суседзяў: прамысловых, бабавых і кармавых культур.

Дасягненні ў гэтай галіне не задавальняюць яшчэ кааператыўшчыкаў. Планы на бягучы гаспадарчы год прадбачваюць далейшы прагрэс у фарміраванні структуры пасеваў найбольш карыскай для сельскай гаспадаркі.

Паступовае абмежаванне плошчы пасеваў збожжавых культур не можа здзейсніцца за кошт змяншэння агульнай прадукцыі збожжа. Павінна тады пастаянна расці ўраджайнасць. Аб тым спулдзельцы не забываюць. Аб іх змаганні за ўраджайнасць гаворыць найлепш штогод растучае скарыстоўванне ўсялякага роду ўгнаенняў. На адзін гектар земляных угоддзяў спулдзельчае поле атрымала ў 1960 г. амаль па 147 кг. хімічна чыстых угнаенняў. У параўнанні з папярэднім годам гэта больш на 35 кг., а ў параўнанні з аднаасобнікамі больш на звыш 31 кг.

Глеба на Беласточчыне пераважна закісшая. Таму, каб штучнае ўгнаенне прыносіла

(Працяг на стар. 2)

# КАСМІЧНАЯ БІЯЛОГІЯ

Чалавек — здзіўляючая істота. Ён ніколі не спыняецца на дасягнутым. Жыццё ставіць новыя заданні і, каб іх вырашыць, нараджаюцца новыя навукі. Адна з іх — касмічная біялогія.

Перад касмічнай біялогіяй стаяць тры асноўныя заданні: даведацца, як будуць адчуваць

## КАБІНА КАСМАНАЎТА




Унутранасць кабіны касманаўта на касмічным караблі «Усход».

1. месца пілота, 2. аптычныя арыенціровачныя прыстасаванні, 3. камера тэлебачання, 4. ілюмінатар з агнеадпорнага шкла, 5. прыстасаванні да ручнога кіравання касмічным караблём, 6. радыёпрыёмнік, 7. (з правага боку ўнізе) кантэйнер з харчамі.

сябе зямныя істоты і расліны ў час касмічных палётаў, пранікнуць у таямніцы жыцця іншых планет і нарэшце высніць тыя шырокія гарызонты, якія раскрывае перад медыцынай і біялогіяй новая навука.

Касмічная біялогія даследуе, як вядуць сябе ў космасе самыя разнародныя формы жыцця. Прыклад — экіпаж «ноева каўчэга», другога савецкага касмічнага карабля.

Найбольш простым прадстаўніком жывых арганізмаў на гэтым караблі быў бактэрыяфаг, г. зн. бактэрыі, якіх не бачым нават праз звычайны мікраскоп. Як уздзейнічае на яго касмічнае падарожжа? Як змяняюцца яго ўласцівасці пад уздзеяннем касмічных выпраменяванняў?

Аб уплыве касмічнай радыяцыі на наследнасць павінна была адказаць пасланая на караблі маленькая пладаносная мушка. Невыпадкова на ёй на працягу многіх год вучоныя вывучалі законы перадачы наследных прызнакаў. Гэтая мушка хутка размнажаецца і наследныя прызнакі яе добра вывучаны.

Белка і Стрэлка былі найбольш высокаразвітымі жывёламі ў кабіне гэтага касмічнага карабля.

Чаму ўзяты былі сабакі, а не найбольш блізкія чалавеку па эвалюцыйнаму развіццю малпы? Справа ў тым, што чалавекападобныя малпы значна «капрызнейшыя» ад чалавека. Яны проста хваробліва рэагуюць на знешнія раздражненні. У сабак рэакцыі кровазвароту і дыхання на знешнія ўмовы прыкладна такія, як у чалавека. Таму менавіта сабака была папярэднікам чалавека ў космасе.

Зараз распрацоўваюцца новыя навуковыя способы, пры дапамозе якіх можна больш дакладна даследаваць фізіка — хімічныя ўмовы атмасферы Марса і Венеры; палепшваецца методыка, дазваляючая вывучаць паверхнасць іншых планет нашай сонечнай сістэмы. Прыклад гэтага — фатаграфаванне адваротнага боку Месяца і запуск савецкай міжпланетнай станцыі ў напрамку Венеры: першае ў гісторыі чалавецтва «кругаземнае» падарожжа Юрыя Гагарына.



**Юрый Гагарын у камбінезоне касманаўты.**

### КОСМАС — ЗЯМЛІ

А ці можа касмічная біялогія спатрэбіцца нам на Зямлі. Безумоўна, можа. І навука ўжо зараз валодае цікавымі данымі ў гэтай галіне. Перш за ўсё касмічная біялогія можа аказваць вялікі ўплыў на развіццё медыцыны

На другі савецкі касмічны карабель былі ўзяты розныя штампы кішачнай палачкі, сталага спутніка чалавека. Вучоныя назіраюць, ці не змянілася дзейнасць гэтых мікраарганізмаў ва ўмовах касмічнага палёту і пасля яго.

Клеткі ракавай пухліны таксама зрабілі палёт на касмічным караблі. Пры вывучэнні рака медыцына шырока выкарыстоўвае культываванне ракавых клетак на спецыяльных харчавых асяроддзях па-за арганізмам. На ракавыя клеткі дзейнічаюць самымі рознымі способамі і высвятляюць, што тармозіць іх рост, што выклікае ў іх смерць, а што стымулюе іх жыццё, іх дзейнасць. Мабыць, розныя дозы касмічнага выпраменьвання могуць па-рознаму дзейнічаць на жыццёздольнасць ракавых клетак. І так касмічная біялогія магчыма знойдзе новыя способы барацьбы з гэтай жудаснай хваробай.

Пасылаючы ў космас штампы грыбкоў — прадуцэнтаў антыбётыкаў, можна разлічваць на магчымасць перамяніць іх уласцівасці, значыць, атрымаць новыя, яшчэ невядомыя на Зямлі разнавіднасці антыбётыкаў.

На другім касмічным караблі знаходзіліся некаторыя расліны. Аказалася, што сухое насенне цыбулі пасля касмічнага падарожжа значна хутчэй прарастае. А ў парастках насення пшаніцы, гароху і кукурузы працэсы клетачнага дзялення і росту праходзілі ў некалькі разоў хутчэй. Рост некаторых праменных грыбкоў нават прыспешыўся ў 6 разоў.

Значыць касмічная біялогія нясе ў сабе залог развіцця медыцыны і іншых прыродазнаўчых навук, а таксама, магчыма, павышэнне ўраджайнасці многіх раслін. Перспектывы касмічнай біялогіі такія ж невычарпальныя, як бязмежныя далі космаса.

## УСЯКАЯ ЎСЯЧЫНА

■ У Баварыі (ФГР), у невялікім горадзе Нідзергофене, існуе арыгінальны «Клуб носа», членамі якога з'яўляюцца людзі з вялікімі насамі.

Старшынёй гэтага клуба выбіраецца той, хто мае найбольшы нос.

На апошнім конкурсе першае месца заняў уладальнік носа, даўжыня якога складае 7,5 сантыметра, а шырыня 4,5 сантыметра. Ён і быў выбраны старшынёй клуба.

■ Паўднёваафрыканскі авадзень за гадзіну можа праляцець адлегласць ад Масквы да Мінска, развіваючы хуткасць 720 кіламетраў у гадзіну.

■ Сусветны рэкорд па сутачнаму ўдою малака належыць карове Вене яраслаўскай пароды. Яна дала 82,2 кг малака за суткі.

■ З усіх жывёлін самымі ўстойлівымі да холаду аказаліся качкі і гусі. Пры доследах яны пераносілі тэмпературу — 110 градусаў, а белыя мядзведзі і цюлені — толькі мінус 80 градусаў.

■ Сярэднесутачная прывага дзіцяняці сіняга кіта дасягае 100 кг. Пры гэтым яно выпівае каля 200 літраў мацярынскага малака за суткі.

■ У час з'яўлення першых еўрапейцаў карэннае насельніцтва Аўстраліі налічвала прыкладна 300 000 чалавек, тады як у нашыя дні колькасць чыстакроўных туземцаў на ўсім мацерыку не перавышае 60 000 чалавек і метысаў — 25 000 чалавек.



**РУМЫНІЯ. Фрагмент найдаўжэйшага маста ў Еўропе на рацэ Дунай.**

## МОДА

**Калі ў таліі больш як 90 см — раім шыць такія сукенкі і касцюмы.**







 

**ІМПЕРЫЯЛІСТАМ ТРЭБА ПАМЯТАЦЬ, ШТО...**




дубінка мае два канцы...







### У КАСЕ

— У касе кіно хлопчык падае 2 злоты і просіць білет.

— Білет каштуе 4 злоты, — кажа касір.

— Нічога, я буду дзівіцца адным вокам, — адказаў хлопчык.

**Янка Данільчук**
Ляўкова Новае.

### СУСЕД ВЕДАЕ

— Дзе ты, Коля, нарваў столькі яблык? — пытае маці.

— У суседа, Пятра.

— А ведае аб гэтым Пятро?

— А як жа, мамачка, ён жа за мною гнаўся.

**Якуб Сабешук**
Паграбы.

### ПАЧУЦЦІ

Ідзе вясна. Сонца пячэ. За сэрца, за сэрца штосьці казыча. Жаніцца трэ'. На Тэклю гляну — слоўна сліва. І румяна і саромліва. Проста ў жар бярэ. На цёшчу гляну — лёд пад сэрцам чую. Страх бярэ і жаніцца баюся.

### СУМЛЕННЫ ПАЛЯЎНІЧЫ

Ідучы лясной сцяжынкай, я раптам пачаў плюск вады. Я падаўся ў тым напрамку, дзе з-под кустоў было невялічкае возерца. Пасярэдзіне яго стаяў дзік, а на беразе паляўнічы са стрэльбай.

— Чаму не страляеш? — спытаў я.

— Не маю рыбацкай карты, — адказаў паляўнічы.

**Уладзімір Бручко**
Рыбалы

### Я МАЮ ЧАС

Кандуктар звяртаецца да пасажыра:

Грамадзянін, мусіце даплаціць да білета! Гэта цягнік паспешны, а вы маеце на цягнік нармальны!

Пасажыр: — То скажыце машыністу, каб ехаў вальней, я маю час.

**Мікола Савіцкі**
Беласток

### У ДОМЕ КНІЖКІ

Будучы першакласнік пытае прадаўшчыцу:

— Ці ёсць буквар да першага класа?

— Не бачыш таблічкі над дзвярыма, што буквароў няма.

— Я чытаць яшчэ не ўмею.

— То трэба купіць буквар і навучыцца, — параіла яму прадаўшчыца.

**Янка Ясьвіловіч**
Пасынкі

### З ЧЫМ ЕЎ

— Елі вы суп? — пытае доктар хворага.

— Еў.

— З апетытам?

— Не, з хлебам.

**Пятро Мартынюк**
Варшава.

### ЭПІГРАМЫ

**НЕКАТОРЫМ НАШЫМ ПАЭТАМ**

Ледзь зрыфмаваў «катлет» з «атлет»,
А кажа ўжо, што ён... паэт.

**Кропка**

**УЛ. КОРБАН**

## НЕ ПРАЦУЮЦЬ, А ЯДУЦЬ



Шаптуны к любой навале
Тут жа рукі прыкладуць.
На вадзіцу пашапталі,
Сала, масла атрымалі, —
Не працуюць, а ядуць.



Спекулянты звычку маюць
Хоць на край зямлі махнуць.
Трантаў розных накупляюць,
Прывязуць, дык пазбываюць.
Не працуюць, а ядуць.



Кожны дзень у гэтых свята,
Рок-н-рол сабе таўкуць,
Бо ў кожнага з іх тата
Мае добрую зарплату, —
Не працуюць, а ядуць.



У сямейцы дужа тонка
Справы ўласныя ідуць.
Самагонку гоніць жонка,
Ён збывае самагонку, —
Не працуюць, а ядуць.



Школу скончылі, а ў поле
Не жадаюць і зірнуць.
Даглядаць свіней! — Ніколі!
Хлеба ў бацькі ёсць даволі, —
Не працуюць а ядуць.

**У СУВЯЗІ З ПАЛЁТАМ ЮРЫЯ ГАГАРЫНА Ў КОСМАС.**



**— Вось табе, бабулька, і Юр'еў дзень!**




**— Ну, бывай, мне направа.**
**— А мне. налева...**

# МЫШАНЁ

Прапаў Дарчын мужык. І нязвычайна прапаў, а проста кануў, як камень кінуты ў ваду. Першы дзень Дарка абяцала мужу вочы вылупіць як ён вернецца, на другі дзень скакала са злосці, як Данілава сучка, а на трэці ўзялася яго шукаць.

Здзіўляцца гэтаму няма патрэбы. Якой жа жанчыне ўсміхаецца ўдавінае палажэнне. Бывае мужам чалавек — не чалавек, проста лень ляжачая. Ён у гаспадарцы толькі лішні рот. Жонка такога трымае толькі, як прадстаўніка.

Бывае, загоніць баба такога на страху — комін рамантаваць, а там работы ўсяго толькі глінай цаглінь абмазаць. Галоўнае тут не ў коміне, а ў тым, каб з вышыні страхі паказаць людзям гаспадара. Калі такі работнік не паляціць са страхі, жонка яму нат' чвэртку гарэлкі паставіць, каб другі раз ахвотней на страху ўзбіраўся.

Шукала, значыць, Дарка мужыка ды праклінала. Самі падумайце, мілыя чытачы, загінуў жа ён у вельмі нявыгодным моманце, у часе палявых работ, калі жанчыне цяжка знайсці другога кандыдата. Заглянула Дарка ў буфет ГС, да прывакзальнага кіёску даўжэй прыглядалася, а ў абед знайшла.

Сядзеў бягляк у паўразваленай хаце інваліда — Мікіты і святкаваў сваё знікненне. Пабачыўшы свайго паўпрытомнага мужа, Дарка працягнула рукі, як прарок над грэшнікам і салодка — райскім голаском праспявала:

— Мышанё маё! Дзе ж ты прапаў? Есці не ем, спаці не сплю, усё чакаю калі ты вернешся, а яго тут у палоне трымаюць.

Мужык павёў мутнымі вачыма, пацалаваў свайго прыяцеля інваліда і цяжка варушачы языком, выдавіў:

— Цьфу, сатана! Жаніўся з адной дурніцай, а перад вачыма стаяць дзве.

— Не пазнае мяне! — дрыжачым голасам спытала Дарка.

— Твая баба ласкава, — адазваўся інвалід, — а мая, царства ёй нябеснае, злая была, як Данілава сучка.

— Мышанё маленькае, — цягнула Дарка беручы мужа за руку, — у ложачку выспіцца, гурэчнага кваску пап'е і ўсё пройдзе.

Пасля суседзі чулі ў Дарчынай хаце сумятню і стогны. Раніцай Дарчын мужык хадзіў з сінякамі, а Дарка расказвала:

— Выпіла маё мышанё лішняе, на гару лезла ды ўпала з драбіны. Пабілася, аж глядзець страшна. Каб толькі абышлося.

Людзі добрыя! Не здзіўляйцеся гэтай гісторыі. Некаторыя з нас намагаюцца перад грамадскасцю паказацца ў лепшым святле, а ці не лепш было б, каб нашыя грамадзяне былі ў сваёй сям'і, так, як перад людзьмі?

*Дзядзька Лявон*




**— Цяпер ужо ведаю, вы хварэеце на вочы.**

 